БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

12 красавіка 1994 г.
Аўторак
№ 39(13756)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года




Малюе Віктар ДУБОВІК

*Знешне гэтая стройная сімпатычная дзяўчына нікольні не падобная на спартсменку, якая займаецца сілавымі відамі.*
*Але Любоў БЯЛОВА, якую вы бачыце на здымку, не проста спартсменка, а неаднаразовая чэмпіёнка Рэспублікі Беларусь у "нежаночым" відзе спорту — паўэрліфтынгу.*
*Працуючы інструктарам фізічнай культуры ў дзіцячым садку ВА "Гомсельмаш", яна два гады таму захапілася гэтым відам спорту. І дзякуючы сваёй настойлівасці і старанным трэніроўкам пад кіраўніцтвам вядомага ў рэспубліцы спартсмена–атлета Мікалая ГРЫШАНАВА (свайго роднага брата), дабілася значных поспехаў.*
*На прайшоўшым нядаўна ў Будапешце чэмпіянаце свету па паўэрліфтынгу, у якім прынялі ўдзел спартсмены з 26 краін, поспех гамяльчанкі Любові БЯЛОВАЙ быў відавочны.*
*Яна стала сярэбраным прызёрам у сваёй вазе.*



Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### "07" дае "адбой"

*І зноў чарговае падаражанне паслуг "міжгародкі". Праўда, у красавіку яно закранула толькі арганізацыі.*

Для іх тарыфы за карыстанне міжгародняй тэлефоннай сувяззю павялічыліся ў 2,5, а тэлеграфнай — у 2 разы. З гэтага часу мінута перагавораў у межах рэспублікі ацэнена ў 400, а вобласці — у 200 рублёў. Акрамя таго, за кожную размову, прадастаўленую ў крэдыт, трэба будзе заплаціць зверх платы яшчэ 160 рублёў. Цяперашняе падаражанне пакуль не закранула размоў па правадах з іншымі краінамі.

### А малако пакуль не даражэе

*Як паведамілі ў дэпартаменце цэн, не адбудзецца намечанае на 10 красавіка павышэнне ў Беларусі цэн на малако, малочнакіслыя прадукты, малочныя сумесі.*

### Зноў з попелу?

*Трагедыя здарылася ў легендарнай Рудабелцы (цяпер гарадскім пасёлку Акцябрскім). Ушчэнт згарэў музей народнай славы. Загінулі унікальныя экспанаты, якія адлюстроўвалі жыццё і быт палешукоў, расказвалі аб барацьбе з нямецка–фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.*

Пакуль кампетэнтныя органы не могуць адказаць на пытанне: ад недарэчнай выпадковасці ці па чыёйсьці злой волі засталіся рудабельцы без сваёй святыні.

БЕЛІНФАРМ.

### У даўгах, як у шаўках

*апынуліся прадпрыемствы Крычава*

Напрыклад, у касу ВА "Крычаўцэменташыфер" за адгружаную прадукцыю прадпрыемствам рэспублікі не паступіла 2 мільярды 700 мільёнаў рублёў, а яму, у сваю чаргу, каб разлічыцца за паліва, электраэнергію і паслугі камунальнікаў, патрэбна 5 мільярдаў.

Мясакамбінату да гэтай пары не выплацілі больш як 9 мільярдаў рублёў (з іх 6,5 мільярда лічыцца за Міністэрствам рэсурсаў), мільярд вінагарадское аб'яднанне ЖКГ і г.д. З-за гэтага камбінат не можа своечасова разлічвацца з гаспадаркамі, якім неабходна выплаціць каля 7 мільярдаў рублёў.

На іншых прадпрыемствах справы не лепшыя.Пошукам выйсця з гэтага становішча і былі заняты галоўныя бухгалтары прадпрыемстваў і арганізацый горада, якія сабраліся на нараду ў гарвыканкаме. Сустрэча мела нядрэнны вынік. Шляхам узаемаразлікаў частка даўгоў — на суму паўмільярда — была ліквідавана.

Аляксандр БАЛДОЎСКІ.

### Родная мова – для невідушчых

*9 красавіка ў будынку Культурна–асветнага цэнтра Беларускага Таварыства інвалідаў па зроку (БелТІЗ) адбылося другое пасяджэнне пастаянна дзеючай камісіі па доступу да культуры і інфармацыі пры выканкаме Еўрапейскага саюза сляпых.*

Вітаў удзельнікаў пасяджэння член выканкама народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, старшыня ЦП БелТІЗ Анатоль Нятылькін. Прадстаўнікі сям'і еўрапейскіх дзяржаў заслухалі справаздачу старшыні камісіі Курта Нільсана (Данія). Дыскусію выклікаў праект "Тэхнічныя і тэлевізійныя сродкі бібліятэчнай службы для невідушчых".

Цікава было даведацца, што на Захадзе, акрамя спецыялізаваных, невідушчых абслугоўваюць і масавыя бібліятэкі, прапануючы да паслуг людзей з аслабленым зрокам камп'ютэры з праграмай на павелічэннне шрыфту; для невідушчых — з сінтэзатарам голасу і тэлеінтэлектам.

Прадстаўнік нашай рэспублікі — генеральны дырэктар Культурна-асветнага цэнтра БелТІЗа Міхаіл Драздоў падзяліўся апошняй заваёвай інвалідаў па зроку Беларусі. На нядаўняй сесіі Вярхоўнага Савета прынята рашэнне адкрыць пры масавых бібліятэках рэспублікі аддзелы па абслугоўванню слабавідушчых і невідушчых чытачоў спецыяльнай літаратурай — агучанай і Брайлеўскай.

Толькі сёлета, на сямідзесятым годзе існавання БелТІЗа, урад рэспублікі выдзеліў неабходную валюту на друкарскае абсталяванне для выдання літаратуры па Брайлю (кропкавым шрыфтам). Нарэшце невідушчыя грамадзяне атрымаюць магчымасць выдання падручнікаў, мастацкай літаратуры на роднай беларускай мове.

**(Ул.інф.)**

### Памятнае шоу

*У Жлобіне ўпершыню прайшло дабрачыннае спартыўнае шоу, прысвечанае воінам–інтэрнацыяналістам горада і раёна. У ім прынялі ўдзел спартсмены–прафесіяналы па кікбоксінгу, а таксама папулярныя артысты.*

Арганізавалі шоу гарадскі спартыўны клуб "Альфа" і клуб былых воінаў-інтэрнацыяналістаў "Абавязак". Сабраныя сродкі пойдуць на будаўніцтва праваслаўнай капліцы памяці загінуўшых землякоў у Афганістане.

Мікалай ШУКАНАЎ.

### Сто краявідаў Беларусі

*Юбілейная выстава вядомага ў рэспубліцы мастака–самародка Георгія Сцяпанава адкрыта ў Выставачнай зале Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза мастакоў.*

У дзень свайго шасцідзесяцігоддзя ён выставіў на суд гледачоў каля сотні твораў, большасць з якіх — краявіды Беларусі.

Арыгінальнасць творчай манеры мастака, непасрэднасць і рамантычнасць дапамаглі яму заваяваць мноства шчырых прыхільнікаў. Работы Георгія Сцяпанава неаднаразова дэманстраваліся ў Гродна і Мінску, вядомы гледачам Польшчы, ФРГ, Галандыі, Канады і іншых краін свету.

### Новыя імёны

*Трэці абласны конкурс дзіцячай творчасці "Новыя імёны" адбыўся ў Гродна. Удзел у ім прынялі прадстаўнікі большасці раёнаў вобласці, якія паказалі сябе як здольныя і таленавітыя музыканты, спевакі, мастакі.*

Лаўрэатамі конкурсу сталі акардэаністка Наталля Дзебыш, скрыпач Аркадзь Гудкін з Гродзенскага музвучылішча, піяністка Наталля Якуніна з Ліды, вакаліст Аляксей Літвінаў з гродзенскай музычнай школы № 1 і юная мастачка Таццяна Саўца, таксама жыхарка абласнога цэнтра.

Зараз рыхтуецца канцэрт лаўрэатаў, з якім пачынаючыя артысты ў якасці дабрачыннай акцыі выступяць у інтэрнатах і бальніцах.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Вяртаюцца дадому

*Віцебшчына заняла першае ў рэспубліцы месца па колькасці этнічных беларусаў, што перасяліліся сюды з–за мяжы.*

За апошнія пятнаццаць гадоў іх колькасць склала трыццаць шэсць тысяч чалавек. У асноўным гэта перасяленцы з Расіі.

### Літаратары нараджаюцца ў міліцыі

*Ва Ушачах, пры цэнтральнай раённай бібліятэцы, створана літаратурнае аб'яднанне "Світанак". Цікава, што дапамаглі нараджэнню работнікі раённага аддзела ўнутраных спраў.*

Аб'яднанне вывучае гісторыю краю, прапагандуе родную мову і літаратуру. Днямі ў гасцях "Світанка" было літаб'яднанне "Ветразі", якое працуе пры раённай газеце. Калегі абменьваліся вопытам. Па-ранейшаму багатая Ушаччына на літаратурныя таленты.

Уладзімір МІХНО.

**Курсы валют на 11 красавіка:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 11700 | 11900 | 6660 | 6960 |
| "Прыор" | 11000 | 11600 | 6430 | 6780 |
| "Пошук" | 11000 | 11700 | 6500 | 7000 |

**ПАДЗЕІ ТЫДНЯ**

# Прыхільнікі прэзідэнцтва задаволены — выбарчая гонка пачалася!

□ Андрэй ВАСІЛЕВІЧ, "ЧЗ"

*Безумоўна, прафесіяналам і аматарам палітыкі бягучы год падаруе мноства падзей — ад ясных, зразумелых да заблытаных і брудных. Мы ўпершыню становімся ўдзельнікамі і сведкамі барацьбы за прэзідэнцкае крэсла і, нягледзячы на багаты сусветны вопыт, Беларусі наканавана зведаць нямала прыкрых памылак.*

Хаця афіцыйная прапагандысцкая кампанія павінна пачацца ў канцы мая, але дрэннымі былі б кандыдаты на пасаду лідэра нацый і дзяржавы, калі чакалі б жаданага ў спакоі і дрымоце.

Заўважце, як замоўклі сацыялагічныя службы, не відаць на старонках прэсы вынікаў іх даследаванняў. Тым не менш яны вядуцца. З неафіцыйных, але дасведчаных крыніц мне ўдалося даведацца, што на сённяшні дзень рэйтынг папулярнасці ўзначальвае няўрымслівы дырэктар саўгаса Аляксандр Лукашэнка. Прычым, ён вырваўся ў лідэры са значнай перавагай над Станіславам Шушкевічам і Вячаславам Кебічам (паміж іхнімі паказчыкамі практычна няма розніцы). Следам ідзе старшыня Маладзечанскага гарвыканкама Генадзь Карпенка, што сведчыць аб велізарным патэнцыяле гэтага цікавага, неардынарнага палітыка, бо ён толькі пачынае спробу ўзняцца на вышэйшую ступеньку піраміды ўлады.

Спіс прэтэндэнтаў з кожным днём множыцца, абнародуюцца і такія прозвішчы, уладальнікі якіх зусім невядомыя шырокім колам. Што ж, нехта разглядае кампанію толькі як спробу заявіць аб сабе.

Але будзем рэалістамі, хутчэй за ўсё чатыры названыя вышэй асобы ды лідэр БНФ Зянон Пазьняк сутыкнуцца ў жорсткім суперніцтве.

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта доктар юрыдычных навук Аляксандр Абрамовіч на мінулым тыдні падкрэсліў журналістам, што пакуль няправільна гаварыць аб кандыдатах у прэзідэнты. Пакуль існуюць толькі асобы, якія маюць намер стаць кандыдатамі. Каб стаць імі, патрэбна сабраць 100 тысяч подпісаў грамадзян альбо 70 подпісаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь (апошняе, несумненна, уяўляецца непараўнальна лягчэйшым для палітыкаў пэўнага кшталту). Мала таго, сабраныя подпісы праверацьь, каб не было фальсіфікацыі.

Цяжкасці перадвыбарчага марафона прэтэндэнтаў не палохаюць, ужо вельмі прывабная мэта свеціцца наперадзе.

Зноў гучна заявіў аб сабе Аляксандр Лукашэнка. Як ні дзіўна, але дапамагаюць яму, насуперак уласнай волі, ягоныя сапернікі.

Так, старшыня часовай антыкарупцыйнай камісіі абвясціў на прэс-канферэнцыі, што дзверы ў кабінет (дарэчы, гэта той самы кабінет, які займалі ў свой час Мікалай Дземянцей, Станіслаў Шушкевіч — узрушальная дэталь) былі ўзламаны, нехта пагаспадарыў у шуфлядах сталоў, на паліцах шаф, у сейфах і нават у халадзільніку. Невядомыя заманілі хуценька замкі, каб часовы гаспадар не змог увайсці ў кабінет. У дадатак да ўсяго дзверы былі апламбіраваны.

Многіх жорсткая мера загнала б у тупік, толькі не Лукашэнку. Ён, канешне, ведае пра тлумачэнні прэс-службы Вярхоўнага Савета, пра заявы Мячэслава Грыба аб тым, што свае функцыі часовая антыкарупцыйная камісія ўжо выканала, што яе дзейнасць спынена. Ведае пра гэта Аляксандр Лукашэнка і ацэньвае сітуацыю інакш. Разам са старшынёй пастаяннай камісіі Булахавым, іншымі дэпутатамі Лукашэнка лічыць, відаць, небеспадстаўна, што Вярхоўны Савет не прымаў рашэння аб ліквідацыі камісіі і яна працягне сваю лінію.

Сутыкненне кіраўніцтва Вярхоўнага Савета з баявым дэпутатам абяцае быць жорсткім. Тым больш, Лукашэнка публічна заявіў, што ён ведае пра тое, хто і каму аддаваў загад фактычна на парушэнне дэпутацкай недатыкальнасці, на вобыск у сталах і сейфах.

У любым выпадку, дакументы, якімі валодае старшыня часовай камісіі, будуць эфектыўна ўплываць на ход выбарчай кампаніі. Калі Вярхоўнаму Савету не хапіла жадання і духу давесці справу да канца, выказаць свае адносіны да запляміўшых сябе асоб, гэта зробяць грамадзяне, перад якімі збіраецца выступаць Лукашэнка.

Чарговы раз мыльнай бурбалкай лопнула паведамленне аб падпісанні ў першых днях красавіка пагаднення аб аб'яднанні грашовых сістэм. Ужо нават памяркоўныя гаспадарнікі крычаць: "Рабіце што-небудзь! Ці аб'ядноўвайце хутчэй на прымальных умовах, ці заводзьце ўласную валюту!" З такім патрабаваннем, напрыклад, выступіў пад час візіту Старшыні Вярхоўнага Савета Мячэслава Грыба ў Віцебскую вобласць адзін з кіраўнікоў тэлевізійнага завода "Віцязь".

Дарэчы, гэты візіт таксама можна разглядаць, як глыбокі і шырокі зандаж настрою выбаршчыкаў на тэму, ці падтрымаюць яны цяперашняга Старшыню ў змаганні за прэзідэнцкую пасаду. Пра гэта сведчыць і прамова, маючая характар праграмнай, якую настойліва парэкамендавалі надрукаваць усім газетам і перадаць па тэлебачанню, і наведванні самых розных прадпрыемстваў, устаноў.

Пра вынікі мы хутка даведаемся. Мячэслаў Грыб не адмаўляў магчымасці свайго ўдзелу ў выбарах.

Пачалася вясна. Пачалася сяўба. Хочацца, каб за палітычнай мітуснёй мы не забыліся пра галоўнае — пра хлеб надзённы, пра духоўнае жыццё. Інакш, навошта будзе той прэзідэнт?

## "Уорлднэт" — "Суперчэннэл" — "Еўраньюс" — "TV-5"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

*Дзяжурны рэдактар*

*П. СІМАНАЎ.*

### Акупацыя працягваецца

*Ізраільскі кабінет вырашыў прадоўжыць акупацыю занятых Ізраілем тэрыторый як мінімум да наступнай суботы. Палесцінцам забаронены пераход з гэтых тэрыторый у Ізраіль. Гэта адбылося пасля таго, як у Ізраілі здарылася цэлая серыя выбухаў, у выніку якіх загінулі 8 чалавек.*

На сустрэчы з Уорэнам Крыстаферам шэф АВП Ясір Арафат папрасіў міністра замежных спраў ЗША ўсімі сіламі садзейнічаць паспяховаму вырашэнню пытання аб аўтаномных тэрыторыях. Перамовы па гэтаму пытанню працягваліся ў нядзелю ў Каіры. Ясір Арафат заявіў, што любая затрымка вываду ізраільскіх войск з сектара Газа ўскладніць вырашэнне пытання мірным шляхам.

### Магчымы новыя бамбардзіроўкі

*Пасля таго, як у нядзелю войскі ААН зрабілі напад на сербскія ваенныя фарміраванні, Бутрас Галі заявіў, што не выключаны далейшыя акцыі з боку сусветнага супольніцтва.*

Ён сказаў, што ў выпадку працягвання ваенных дзеянняў з боку сербаў у зонах, абазначаных ААН як зоны навядзення агню, будуць прыняты меры, закліканыя забяспечыць спакой, аж да нападу на пазіцыі сербаў.

### Прыватызацыя з аглядкай

*Урад Іспаніі плануе зрабіць больш жорсткім дзяржаўны кантроль за некаторымі прыватызаванымі прадпрыемствамі стратэгічнага прызначэння.*

У сувязі з гэтым распрацоўваюцца новыя нарматыўныя акты, якія абмяжуюць долю замежнага капіталу ў такіх прадпрыемствах.

### Самагубства палітыка

*Былы саветнік і блізкі сябар Франсуа Мітэрана Франсуа дэ Грасуўр у чацвер вечарам у Парыжы пакончыў жыццё самагубствам.*

Цела 76-гадовага палітыка з пісталетам у руцэ было знойдзена ў яго офісе. Вядома, што Франсуа дэ Грасуўр пасля выхаду з кабінета ўрада займаўся далікатнымі справамі за мяжой, асабліва на Блізкім Усходзе. Дакладна аб прычынах мяркуемага самагубства пакуль нічога невядома.

### Тайланд рыхтуецца да вайны?

*Тайландскія войскі на граніцы з Камбоджай прыведзены ў стан павышанай боегатоўнасці.*

Гэта мера — рэакцыя Тайланда на актывізацыю ў камбаджыйскіх прыгранічных раёнах сутычак паміж урадавымі войскамі і "чырвонымі кхмерамі".

### Ватыкан смуткуе аб ахвярах

*У Ватыкане адбыўся канцэрт, прысвечаны памяці ахвяраў вайны, у тым ліку яўрэяў, якія загінулі ў час праўлення нацыстаў.*

Разам з 5 тысячамі яўрэйскіх і каталіцкіх вернікаў удзел у гэтым канцэрце прыняў Іаан Павел ІІ. Ён заявіў, што жахі другой сусветнай вайны ніколі не павінны паўтарыцца ў гісторыі чалавецтва. На жаль, зазначыў кіраўнік каталіцкай царквы, у свеце цяпер зноў мацнеюць антысемітызм і варожасць да замежнікаў.

### Японскі прэм'ер падаў у адстаўку

*Прэм'ер–міністр Японіі Хасакава падаў прашэнне аб сваёй адстаўцы. На пасяджэнні сямі вядучых партый Японіі адстаўка была прынята.*

Пакуль невядома, калі канкрэтна Хасакава пакіне пасаду. Паводле некаторых звестак, ён быў выкрыты ў выкарыстанні службовага становішча ў асабістых мэтах.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## БІЗНЕС-КЛАС



Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

### Беларусь – цэнтр Еўропы. Так лічаць англічане

Англійскія бізнесмены вельмі імкнуцца супрацоўнічаць з Беларуссю. Асабліва ў апошні час — пасля візіту месяц назад беларускай урадавай дэлегацыі ў Вялікабрытанію. Перш за ўсё англічане разлічваюць выкарыстаць у сваіх мэтах выгаднае геаграфічнае месцазнаходжанне рэспублікі. Яны называюць Беларусь "цэнтрам Еўропы". Акрамя таго, брытанскіх прадпрымальнікаў прыцягваюць і нашы высокакваліфікаваныя спецыялісты.

Буйнейшы банк Вялікабрытаніі "Барклайз" — адзін з самых значных банкаўскіх структур свету з актывамі 149 мільярдаў фунтаў стэрлінгаў — распрацаваў каля 20 праектаў на рэканструкцыю беларускай вытворчасці. Але самае галоўнае, што ўсе гэтыя праекты носяць перспектыўны, доўгатэрміновы характар. Тым больш, што банк "Барклайз" мае станоўчы вопыт выкарыстання сродкаў ва ўмовах інфляцыі і неканверсуемай валюты.

Заслугоўвае ўвагі праект рэканструкцыі Брэсцкага чыгуначнага вузла па стварэнню там тэрмінала па апрацоўцы грузаў. Яго прапаноўвае Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця, мэта якога — садзейнічаць пераходу да рыначнай эканомікі і падтрымліваць прыватнае прадпрымальніцтва ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, умацоўваючы там дэмакратычныя інстытуты і захоўваючы навакольнае асяроддзе.

**Ірына ШУКЕВІЧ.**

### Гандаль без пошлін

Пастановай Саўміна зацверджана часовае палажэнне аб магазінах бяспошліннага гандлю, дзе, у прыватнасці, гаворыцца, што стварэнне кожнага такога магазіна праводзіцца па асобнаму дазволу Дзяржкаммытні. Ён выдаецца асобам, якія маюць ліцэнзію на ажыццяўленне рознічнага гандлю і дазвол Нацыянальнага банка на рознічны гандаль і аказанне паслуг грамадзянам за замежную валюту. Месца знаходжання, канструкцыя будынка ці памяшкання магазіна, а таксама рэжым яго работы павінны забяспечваць выкананне ўмовы продажу толькі грамадзянам, якія перасякаюць мытную граніцу рэспублікі..

Суб'екты гаспадарання Беларусі, гаворыцца ў пастанове, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю магазінаў бяспошліннага гандлю, абавязаны да 1 чэрвеня г.г. атрымаць адпаведныя дазволы.

### Як зарабіць 100 мільярдаў?

Вопытам такой прадпрымальнасці падзялілася кіраўніцтва акцыянернага камерцыйнага банка "Беларусь", робячы справаздачу 8 красавіка на гадавым сходзе перад сваімі акцыянерамі. Яны даведаліся, што даходы банка за мінулы год склалі 100,2 мільярда рублёў. На рубель статутнага фонду, сфарміраванага на канец 1993 года, атрымана 4,1 рубля прыбытку. Актыўна вялася работа банкіраў па развіццю знешнеэканамічнай дзейнасці, пашырэнню аперацый з валютай.

На бягучы год прыярытэтным напрамкам у дзейнасці банка "Беларусь" застаецца крэдытаванне суб'ектаў гаспадарання ўсіх форм уласнасці, якія маюць устойлівае фінансавае становішча і забяспечваюць вытворчасць і пастаўку ў рэспубліку неабходных тавараў народнага спажывання, паліўна-энергетычных рэсурсаў, сыравіны і матэрыялаў.

**БЕЛІНФАРМ.**

## ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ

# "Кар'ера-94"

□ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

**1.**

Колькі год таму ва універсітэцкай аўдыторыі прасветлены перабудовачнымі гадамі выкладчык абноўленай палітэканоміі задаў нам, будучым журналістам, даволі правакацыйнае пытанне. "Што з'яўляецца галоўным у жыцці", — просценька спытаў ён. Аўдыторыя ў думках узважыла свае асабістыя і кар'ерысцкія ідэалы, адкінула іх, зрабіла спробу выйсці на палітэканамічны ўзровень і, у рэшце рэшт, калектыўны розум выдаў формулу, лаканічнасць і аб'ёмнасць якой не падлягае сумненням: задавальненне матэрыяльных і духоўных патрэб. Выкладчык усміхаўся і прасіў падумаць. Не, і не шчасце. А што ж тады? Аказалася — свабода.

**2.**

Пасля той памятнай лекцыі, а можа і зусім не з-за яе, на поўную катушку раскруціў галоўную жыццёвую каштоўнасць аднакурснік. Не працуе. І не таму, што месца няма, беспрацоўе заела альбо таленту не хапае. Свабода, пра высокі сэнс якой стала можна гаварыць, банальна і элементарна праявілася на мясцовай глебе: добрая частка маладых здаровых людзей кінула працаваць, добраахвотна стаўшы ўтрыманцамі на карку блізкіх людзей. Увогуле гаворачы, уласная справа кожнага — дзе яму працаваць, як і ці варта наогул працаваць. Толькі ідэолага мінулых гадоў вабіць прымусовая праца ўсіх і кожнага са статыстычнай карысцю, нізкай якасцю прадукцыі і паступовай сумнай неабходнасцю нешта змяняць у стаячай, як балота, эканоміцы. Але свабода, успрынятая толькі як свабода не працаваць, хранічная лянота, выпешчаная да памераў інфантыльнай абыякавасці, — гэта тое небяспечнае для будучыні нашага грамадства, што можна зараз сустрэць на кожным кроку, і хварэюць на гэта ў асноўным маладыя. Не маючы статыстыкі, варта ўзгадаць сем'і сваіх знаёмых, амаль ці не ў кожнай з якіх знойдзецца ўтрыманец "у росквіце сіл".

**3.**

Сапраўдных беспрацоўных, тых, хто не працуе, але хоча працаваць па спецыяльнасці (у адваротным выпадку абавязкова нешта прапаноўвае біржа), у нас не вельмі многа. Куды больш уражваюць маштабы добраахвотнага беспрацоўя, прадстаўнікі якога прызвычаіліся блефаваць. Гэтак яны ніколі не скажуць, што не працуюць, таму што не хочуць. Шукаю працу ці, нават так: займаюся камерцыяй. Так і соўгаюцца натоўпы маладых людзей, марнуючы час ля недаступна дарагіх камерцыйных шапікаў і магазінаў.

**4.**

Часцяком можна пачуць, што няма сэнсу працаваць, бо ўсё роўна мала плацяць. Не вартая, маўляў, гульня свечак. Тых сярэдніх трыццаці даляраў, што мы атрымліваем, ледзь хапае на тое, каб звесці канцы з канцамі, прасцей кажучы, каб пракарміцца і тое-сёе купіць з рэчаў. Шукаць дадатковыя крыніцы прыбытку для прадстаўнікоў добраахвотнага беспрацоўя — занадта клапатлівая рэч, хаця рамкі свабоды значна пашырыліся ў гэтым сэнсе. Псіхалогія агульнаграмадскага ўтрыманства змянілася на індывідуальнае, і калі так будзе працягвацца, дык праз пару гадоў яскравым прадстаўніком нашага грамадства будзе не сённяшні жвавы камерцыйны дзялок, які заўсёды рады ўхапіць палёгкаму грошай, а кволы беспрацоўны, што з раніцы займае чаргу, каб падсілкавацца ў бясплатнай грамадскай сталоўцы.

**5.**

Усе ў курсе добра растлумачанага прэсай пытання, што час сёння — надзвычай цікавы. Цікавы і небяспечны. Разам з палітычнымі глыбамі зрушыліся з мёртвага пункту эканамічныя, маральныя, нарэшце, ідэалагічныя асновы, недатыкальнасць якіх гарантавалася дзяржавай.

Ва ўскаламучаным грамадстве адбываецца пераразмеркаванне. Пераразмяркоўваецца ўсё: грошы, ідэалы, улада, людзі, як працоўная сіла. Асабліва балюча ўспрымаецца менавіта апошняе. Калі прыслухацца, дык можна пачуць стогн, які цягнуць людзі сталага ўзросту, што большую частку жыцця адпрацавалі ў адной сістэме пад каўпаком пэўных ідэалаў, а амаль перад самай пенсіяй апынуліся ў сістэме свабоднага пераразмеркавання з вакуумам ідэалаў і цнатліва-чыстымі ашчаднымі кніжкамі. Маладыя людзі не стогнуць. Не паспеўшы набыць страху перад сістэмай і маючы наперадзе вечнасць, многія не пажадалі ўпісвацца ў агульнаразмеркавальны кантэкст і проста, банальна кінулі працаваць.

**6.**

Нягледзячы на стогны пажылых людзей, заўсёды цяжка ўспрымаючых грамадскія катаклізмы, найбольш адчувальна "цікавы" час ударыў па індыферэнтнай моладзі ад дваццаці да трыццаці. Яны галоўным чынам і трапілі ў кола добраахвотнага беспрацоўя. Тое ружовае юнацтва да дваццаці, што зараз спакойненька гандлюе, не маючы ніякіх комплексаў, па сутнасці, выхоўвалася ўжо ў іншай школе, у свабоднай інфармацыйнай камерцыйна-творчай атмасферы. Тыя, хто пераваліў за трыццатку і набліжаецца да саракоўкі, паспелі набыць сувязі, аўтарытэт, імя і таксама даволі трывала адчуваюць сябе ў віры службовай кар'еры ці працоўнай дзейнасці. Дваццаціпяцігадовых час застаў пустымі, непадрыхтаванымі і аморфнымі. Не дапамагаюць ні дыпломы інстытутаў, ні набытыя ў колішніх ПТВ рабочыя прафесіі з прыцэлам на непазбежнае скарачэнне штатаў канверсійных прадпрыемстваў.

**7.**

Сапраўдная балячка часу — страчаны аптымізм. Горш за ўсё, што пакутуюць ад гэтай хваробы менавіта маладыя. Квінтэсенцыя існавання грамадства выявілася ў формуле: трэба круціцца. Ліхасць такога аптымізму ўсвядомілі многія, у тым ліку і тыя, хто, нягледзячы на камень за пазухай, вызначае сённяшні дзень краіны, і ад каго залежыць яе заўтрашні дзень. А многія не ўсвядомілі нічога, нават таго — як гэта небяспечна аддаваць сваю будучыню ў чужыя рукі, а пакуль снула пазіраць на нечы камерцыйны поспех, прэстыж, кар'еру.

## ПАМЯЦЬ

# З-пад вогненнага неба

### Учора, 11 красавіка, адзначаўся Дзень вязняў фашысцкіх лагераў

□ Сяргей ПАНІЗЬНІК

Да маёй вёскі карнікі не дайшлі. А вось за Дзвіною, як гаварыла мама, у той год, калі я нарадзіўся, часта палымнела неба. На Асвейшчыну хваля за хваляй накосваліся смертаносныя карныя экспедыцыі.

Пра лёс землякоў напісаў дакументальныя кнігі "Браніслава", "Освейская трагедия". Летась у выдавецтве "Юнацтва" выйшла кніга народнай памяці "Дзеці вайны", дзе быў адным з укладальнікаў і аўтараў гэтага зборніка.

Але і да сённяшняга дня не заціхае ў душы боль, якім дзяліліся са мной былыя вязні фашысцкага канцлагера Саласпілс, мае землякі-саавтары. Многія з іх засталіся жыць у Латвіі, дзе былі ратаваныя ад немінучай смерці. У пасёлку Рэмбатэ каля Огрэ, да прыкладу, знайшлі прытулак Л.Трыпук, Я.Ясукевіч, А.Зінько, Я.Лемяшонак, В.Каляда, К.Уселенак... Мясцовыя жыхары сталі для асвейскіх вязняў за родных людзей. Іх прывезлі ў Рэмбатэ 7 красавіка 1943 года. І таму для ўсіх тых саласпілскіх ахвяр 7 красавіка стаў днём ратавання, агульным для ўсіх другім Днём нараджэння. На адну з такіх сустрэч прыязджала Беларускае тэлебачанне.

Ад былых вязняў, сваіх землякоў, часта атрымліваю вестачкі, згадкі, успаміны. Вось якое пісьмо прыйшло зусім нядаўна з Рыгі ад Крыванос Элі Канстанцінаўны.

"Я таксама родам з Асвейшчыны і зведала ўсе страхі асвейскай трагедыі. Да гэтага часу дзіўлюся, як наша сям'я (было пяцёра дзяцей) засталася ацалелай. Жылі мы ў вялікай вёсцы Стараселле Задзежанскага сельсавета. У лютым 1943 года карнікі пачалі наступаць на партызан. Усёй вёскай падаліся ў лес.

Нас захапілі пад Мілавідамі. У вёсцы Чарнавокі ўсіх загналі ў хлеў. Назаўтра пачалося сартаванне. Слабейшых на нашых жа вачах спалілі ў лазні. Там згарэлі маці нашага бацькі са сваім мужам, яе нявестка з дзецьмі (нехта данёс, што муж нявесткі ў партызанах).

Наш бацька таксама дапамагаў партызанам: збіраў для іх прадукты, цёплыя рэчы, майстраваў лыжы, даваў прытулак, калі яны ішлі ці вярталіся з заданняў. Але, на шчасце, ніхто яго не выдаў. Так мы засталіся ў жывых.

Потым сваіх ахвяр карнікі прыгналі ў Дрысу, дзе школа была ператворана імі ў турму. Адтуль трапілі ў Полацк, дзе адна са школ была абсталявана ў сапраўдны канцлагер. Наўкол двара — агароджа з калючага дроту, наўкруг — ахова з аўчаркамі...

Толькі перад самым наступленнем Савецкай Арміі нас вывелі з Полацка і ганялі фашысты ад адной вёскі да другой, пакуль мы не ўцяклі ў бок Латвіі..."



Не затухае над Беларуссю вогненнае неба вайны. Будзем жа берагчы кожнае слова сведак, згадваючы страты і шануючы духоўную моц і нескаронасць нашага люду.

**НА ЗДЫМКАХ: Лодзь, былыя вязні дзіцячага канцлагера ля помніка "Расколатае сэрца"; Майданак.**

**Фота аўтара.**

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА



### Нічыйныя тэрыторыі

Тое, што паўсюль суцэльная эканомія на зарплатах, у тым ліку ў дворнікаў, — зразумела. Але быццам бы і нічыйнай зямлі няма — усё належыць Саветам. Аднак вось тратуар вычышчаны адсюль і дасюль, сцяжынка, падмеценая па нейкай невядомай прыкмеце ў строга вызначаным месцы. Ёсць жа такія тэрыторыі! І глабальнае прыбіранне іх не тычыцца, і прыватнае — уручную, мяцёлкай і шуфляй не кранае. І канкрэтовых адрасоў — колькі хочаце. Вось здаецца чыста, суха і праз некалькі крокаў — бруд такі, што не ўлезці. І ў нашым двары быццам бы нябрудна, і калі снежна — пачышчана, склізка — пасыпана, летам — падмецена. А побач, крокаў дзесяць, якраз на падходзе да двара, аптэка, дык там снег раставаў паволі, ніхто не прыбіраў, цэлае возера ўтварылася. Універсам у Курасоўшчыне стаў недаступнай цытадэллю з прадуктамі: з-за адліжнай мяшанкі пад нагамі да ягонага ганка не падступіцца. І так усюды. Скуль жа яны бяруцца — гэтыя нічыйныя тэрыторыі, якія так замінаюць у непагадзь гараджанам і брудам сваім псуюць твар горада?

**Ганна ЗАЛУЖНАЯ.**

## ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ

# Жыхары сметніка

□ Аляксандр БАЛДОЎСКІ

*Абавязковы спадарожнік любога горада — сметнік — раскінуўся ў сотні крокаў ад дарогі, паміж Крычавам і вёсачкай Пушкары. Курганы з вытворчых і бытавых адходаў, якія звалены на плошчы ў некалькі гектараў, добра відаць з шашы. Раней гарадскі сметнік заўсёды ахутвалі клубы едкага дыму. Гэта згаралі дзесяткі тон адходаў вытворчасці завода гумавых вырабаў. Зараз ён працуе не на поўную магутнасць, а часам і зусім прастойвае, таму над сметнікам смог не вісіць, і мы здалёк убачылі двух чалавек, якія корпаліся ў смецці. Вырашылі заехаць, паглядзець, што за "археолагі" з'явіліся тут.*

Пад'ехалі. Супрацоўнікі аддзела крымінальнага вышуку РАУС пацікавіліся ў мужчын, хто яны і адкуль, якімі "археалагічнымі раскопкамі" займаюцца, што шукаюць.

— З Чэрыкава мы. На веласіпедах прыехалі. Вунь яны стаяць! Шукаем тое-сёе карыснае, — прамовіў невялікі мужычок, які трымаў у руках стары дзіцячы чаравік.

— А што тут можа быць карыснага сярод рыззя? — запытаў я.

— Рознае трапляе. Абутак, адзенне, якое яшчэ можа паслужыць не адзін год.

— Няўжо ў наваколлі Чэрыкава сметнікаў мала?

— Большы горад — большы і багацейшы сметнік...

— І не лянуецеся вы ездзіць у такую далячынь?

— Гэта няцяжка — усяго нейкая гадзіна. Ды што мы, вунь людзі тут увогуле зімаваць вырашылі, — сказаў другі мужык, махнуўшы рукою ў далёкі канец сметніка.

Зацікавіўшыся, мы пакрочылі ў тым напрамку. Дарога ішла між кучамі смецця. Чаго там толькі не было: будаўнічыя адходы, гнілая агародніна і садавіна, паламаныя скрыні, абрэзкі гумы і рознае рыззё. З левага боку ўзвышаўся нагорнуты вал зямлі, за якім раскінулася пакрытае ржышчам зжатае поле, з раскіданымі па ім сціртамі саломы.

Ледзь шызаваты дымок, што слаўся над земляным бугром, заўважылі толькі пасля таго, як убачылі двух чалавек, якія шпарка беглі па полі, уцякаючы ў бок кустоў. Два міліцыянеры пабеглі ўслед, але безвынікова — час быў прайграны. Людзі нібы скрозь зямлю праваліліся: ці то ў саломе схаваліся, а мо ў хмызняку заляглі.

Тады мы абследавалі іх жытло, дакладней, бярлогу. Яна нагадала мне рыбацкі прытулак у карэльскіх лясах. Вось толькі размешчана была не на беразе блакітнага возера, а на ўскрайку смярдзючага сметніка.

Паднялі коўдру і поліэтыленавую плёнку, што служылі дзвярыма, і зазірнулі ўнутр. Было адразу відаць, што зямлянка абжыта даўно і падрыхтавана да зімоўкі. Два тапчаны, засланыя розным рыззём, нагадвалі звярынае логава, а вось складзеная з цэглы пліта была зроблена па-майстэрску. Сухія дошчачкі ад скрынь гарэлі роўна і не давалі дыму. Табурэтамі служылі парожнія скрыні. Каля сцяны стаяў рукзак з брудным адзеннем, стары абутак...

Увагу прыцягнула скураная сумачка. У ёй некалькі паламаных гадзіннікаў, адвёрткі, скальпель, іншая дробязь. Гэта падказвала, што гаспадары жытла — людзі маладыя, магчыма, непаўналетнія. Ды і вымытае адзенне, што непадалёк сохла на кустах, было невялікага памеру. Дзве бутэлькі малака ў зямлянцы таксама падмацоўвалі гэтую версію. Праўда, крыху бянтэжылі парожнія балончыкі з-пад розных дэзадарантаў і дыхлафосу, шмат якіх было раскідана побач з бярлогай. Няўжо ўсё гэта было выкарыстана для барацьбы з паразітамі і выдалення непрыемнага паху? Збоку ад уваходу ў зямлянку стаяла пластмасавая скрыня з замарожаным мясам у поліэтыленавых пакетах. Запас быў зроблены ладны.

Хто і чаму "прапісаўся" на сметніку, мы так і не даведаліся, хаця супрацоўнікі міліцыі заглядвалі туды праз тыдзень. Было відаць, што нехта наведаў зямлянку, але доўга там не затрымаўся. Цікава б ведаць, чаму кіраўніцтва гарадскога вытворчага аб'яднання ЖКГ, якому належыць сметнік, дапусціла будаўніцтва там зямлянкі і пражыванне людзей? А калі гэта злачынцы?..

## ПА-СУСЕДСКУ

### Ведай, дзе страляць

*З гэтага часу ў Расіі страляць можна толькі ў горадзе і выключна ў камерсантаў. Прычым у любую пару года і пры любым надвор'і. Страляць за горадам — крый Божа!*

Калі пры вас стрэльба, дык абавязкова не будзе паляўнічага білета, калі ёсць паляўнічы білет, дык апынешся ў запаведнай зоне... ну, а калі і тут пашанцуе, дык абавязкова выпадзе выйсці ў забаронены тэрмін. За сем бед адзін адказ — штраф. Сёння ў Падмаскоўі ён павялічаны з 50 працэнтаў мінімальнай зарплаты да дзесяці, а то і дваццаці мінімальных акладаў. Таму, калі рукі свярбяць, лепш за ўсё страляць у горадзе: за банкіраў цяпер менш, чым за варон даюць.

### У вакзала – юбілей

*Беларускі вакзал рыхтуецца ўрачыста адзначыць сваё дзевяностагоддзе, і кіраўнікі Масквы ўжо заклапочаны яго новым імянінным аблічкам.*

За ідэю рэканструкцыі ўзяліся студэнты-дыпломнікі кафедры архітэктуры прамысловых збудаванняў МАРХІ. І прадставілі праект, які не магла не адобрыць прэфектура Цэнтральнай адміністрацыйнай акругі.

Галоўнае новаўвядзенне праекта — магчымасць "накрыць" усю прамысловую зону велізарнай платформай на вышыні 9-10 метраў над зямлёй. Пад платформай рухаюцца паязды, наверсе, на другім узроўні, размешчаны горад-сад са скверамі, кветнікамі, супермаркетам, гандлёвымі радамі, памяшканнямі для офісаў і выставак, культурна-бытавым цэнтрам з атэлямі, гасцініцамі, кінатэатрам.

### Пасольства Швецыі ўдакладняе...

*Як паведамілі супрацоўнікі пасольства Швецыі ў Літве, юрыдычныя праблемы, што ўзнікалі з-за пазіцыі Беларусі, прыпынілі выкананне толькі аднаго з дваццаці праектаў, накіраваных на ўмацаванне бяспекі Ігналінскай АЭС.*

Прыпынены з-за праблем з Беларуссю праект ацэньваецца прыкладна ў 10 мільёнаў шведскіх крон.

### Працаваць становіцца небяспечна

*Больш за чатырыста чалавек стала ў мінулым годзе ў Літве інвалідамі ў выніку траўм на працоўным месцы і з-за прафесійных захворванняў.*

128 чалавек па гэтых жа прычынах памерлі. І хоць у дарожных здарэннях гіне ў 8 разоў, а ў быце — у 17 разоў больш людзей, страты з-за нездавальняючага становішча ў сістэме аховы працы Літвы склалі 250 мільёнаў літаў. Каля 200 тысяч чалавек у рэспубліцы працуюць у шкодных для здароўя ўмовах. За апошнія пяць гадоў колькасць інвалідаў працы павялічылася на 56 працэнтаў.

### У штаце АЭС – астролаг

*Вядомы расійскі астролаг Павел Глоба падпісаў з адміністрацыяй Ігналінскай атамнай электрастанцыі доўгатэрміновы дагавор аб супрацоўніцтве.*

Свае паслугі прадказальнік будзе аказваць АЭС бясплатна. Пасля першага агляду памяшканняў двух блокаў станцыі астролаг канстатаваў, што прадказаная ім раней аварыя і сапраўды можа адбыцца ў сакавіку 1997 года. Павел Глоба прадоўжыць свае даследаванні на Ігналінскай АЭС у маі гэтага года.

**БЕЛІНФАРМ.**

*Сто артыкулаў*

# СЛАВА ЛЯЦЕЛА

...І паўстаў перад вачамі магутнага ўладара нябачанай прыгажосці Храм Божы. Захоплены яго велічнасцю і дасканаласцю, загадаў усемагутны паклікаць галоўнага дойліда, што стварыў гэтую казачную прыгажосць, каб па заслугах аддзячыць таго.

— Ай, як добра! Пекната! Не маю слоў!.. То — чарадзейства!.. А лепшы, чым гэты, здолеў бы ты збудаваць? — пахмура спытаў майстра ўладар.

— Змагу, гасудар!..

— А каб такі, што нідзе яшчэ ў свеце не было?

— Даручы, мой васпан!..

І загадаў тады жорсткі тыран выкалаць вочы чароўнаму майстру, каб ніколі не мог той зрабіць нічога падобнага ў чужых землях, каб пабудаваны ім храм быў адзіным у свеце і славіў сілу і моц ягонай вялікасці.

Забылася імя таго валадара, а храм застаўся, расказвае людзям дасканаласцю сваіх архітэктурных форм пра таленавітага дойліда, услаўляе ягонае майстэрства.

На жаль, гісторыя не захавала і імя вялікага майстра, як і імёнаў тысяч іншых умельцаў з народных глыбінь. Сведчанняў жа іх талентаў проста не злічыць. Пачатак ім паклалі (хто б мог падумаць!), прасліцы, праселкі, прасельцы, як любоўна называюць гэтыя вырабы да нашага часу людзі. Выкарыстоўваюцца яны з даўняй пары ў прадзіве і ткацтве. Сыравіну для вырабаў нашы продкі "знаходзілі" ў ваколіцах сваіх паселішчаў. Гэта была... гліна, просты, эластычны, прыгожы матэрыял, які дазваляў надаваць вырабам разнастайную форму, аздабляць спачатку немудрагелістымі рысачкамі, наколамі, трохвугольнічкамі, ромбамі, раслінным арнаментам, кветкамі. І сёння археолагі не-не ды і выкапаюць гэткае рэдкае прасельца, таленавіты твор продкаў нашых. Самая старажытная такая знаходка знойдзена навукоўцамі каля вёскі Юравічы Калінкавіцкага раёна. Выраблена каштоўная прасліца аж у трэцім тысячагоддзі да нашай эры! Знойдзены прасліцы ў Віцебску, Пінску, Тураве, Друцку. На некаторых захаваліся хвалюючыя надпісы: "Бабино праслен", "Настасино праслън", "Княжинь". Ёсць нават прасельца з выявай твару, відавочна, майстра і літарай "П".

Як бачым, з пяшчотай, цеплынёй, сардэчнасцю, пашанай ставіліся людзі да няхітрага, але патрэбнага начыння.

Няма сумненняў, што гартаванне талентаў лепшых прадстаўнікоў беларускага народа пачыналася з прасліцы. А ў далейшым, удасканальваючыся, праяўлялася ў самых розных рэчах паўсядзённага ўжытку, святочных упрыгажэннях, творах жывапісу, скульптуры, музычнага мастацтва, паэзіі і прозы, увасабляючы тым самым непарыўную повязь пакаленняў. Беларускія рамеснікі рабілі з жалеза наканечнікі стрэл, фібулы, бранзалеты, ткалі з сярэбранай ніткі паясы, упрыгожваючы іх бронзавымі выявамі і чырвонай эмаллю

Хто не пагодзіцца з тым, што рукамі майстра штрыхаванай керамікі і дойліда Божага Храма вадзіла адна і тая ж сіла — харавство роднай зямлі, адчуванне якога закладзена ад нараджэння кожнаму з нас, у большай ці меншай ступені. Ад гэтага ўвасаблення — усё створанае на зямлі. Але такая ўжо ўласцівасць чалавека, што ён заўважае і адзначае самае адметнае, велічнае. Гэта зразумела: цэніць высокае майстэрства, выдумку, кемлівасць.

Умельства ж рук беларускіх цесляроў, муляраў, рэзчыкаў па дрэве цанілася і ў сваім краі, і ў Маскоўшчыне, як папросту называлі некалі Расію, не ўкладваючы ў гэта паняцце ніякага крыўднага, ці пагарджальнага сэнсу. Людзі аднае хрысціянскае веры, гісторыі, культуры, зразумелай усім, нягледзячы на некаторыя асаблівасці мовы, яны гэтаксама натхнёна, як і дома, працавалі на манастырскіх дворышчах, у княжацкіх маёнтках і палацах, царскіх уладаннях, паказваючы ўсюды выключную здатнасць, арцельную згуртаванасць, сумленнасць і адказнасць за добрае выкананне даручанай справы. А стараннасць, дбайнасць сама за сябе гаворыць.

Прыклад рупнасці, прафесійнай годнасці беларусаў я знайшоў на маёй радзіме — курскай зямлі, дзе пры "матухне Екацярыне II" князь Іван Іванавіч Барацінскі, надзвычай багаты і вяльможны прадстаўнік знакамітага ў Расіі і Вялікім княстве Літоўскім рода, задумаў пабудаваць на родных чарназёмах палац, які б адпавядаў яго самавітасці, сваяцкасці з дынастыяй цароў Раманавых. Князь пажадаў утварыць з існаваўшага каля палаца стаўка шырокае возера. Архітэктар пагадзіўся з задумай і параіў Барацінскаму "наняць для расчысткі стаўка ў Беларусі грабароў, бо сяляне вашы зусім да таго нязвычныя".

Грабары цудоўна зрабілі сваю справу. Згаданае сінявокае возера і сёння плешча воддаль казачнай прыгажосці палаца, услаўляючы працавітых беларускіх землякопаў. Нізкі паклон вам, руплівыя, ад усяе курскай зямлі!

Шмат зроблена беларусамі і ў самой Маскве, куды беларусы ахвотна, а іншы раз і прымусова, ішлі, каб пазбегнуць каталіцкага прыняволення, уціск якога ўзмацніўся ў часы ўладарання вялікага князя літоўскага Ягайлы-Аляксандра, калі ён пабраўся з польскай каралевай Ядвігай і стаў каралём Польшчы пад імем Уладзіслава II. З сякерамі за паясамі, іншымі цяслярскімі, кавальскімі прыладамі ў скрынях, піламі, заматанымі ў зрэбніну, калаўротамі, прыстасаваннямі для ткацтва, іншым скарбам перасяляліся русіны, як звалі ў эпоху Сярэднявечча беларусаў і наогул усходнеславянскае праваслаўнае насельніцтва, таксама ў Смаленскую зямлю. Сустракалі новажыхароў ветла, гасцінна (інакш бы не перасяляліся). У Маскве беларусы сяліліся пераважна ў Мяшчанскай слабадзе, у сяле Каломенскім, што пад Масквою, якое было царовай сядзібай. Шчыравалі на збудаванні шэрага храмаў, аздаблялі ўнутранае іх убранне вытанчанай разьбой з пазалотай.

Хвалюючае ўражанне пакідае ў душы іканастас сабора іконы Смаленскай Багародзіцы (1524-1525), выразаны беларускімі арцельшчыкамі пад кіраўніцтвам Герасіма Акулава, Андрэя Фёдарава, Кліма Міхайлава, Яўсея Сямёнава і іншых майстроў пазалотнай і разбярнай справы. Цёзкі па прозвішчу Андрэевы, Восіп і Іван (першы з Оршы, другі — з Полацка) працавалі ў Маскоўскім Крамлі. У 1685 г. у Новадзявочым манастыры Восіп разам з землякамі-разбярамі зрабіў іканастас. Іван зарэкамендаваў сябе цудоўным чаканшчыкам. Царскі сталовы посуд, што захапляе і сёння, зроблены ягонымі рукамі. Працуючы разам з Іванам Пракофьевым, Ларыёнам Афанасьевым, Васілём Івановым, ён умеў парадаваць царэвічаў Івана і Пятра дзіўнымі цацкамі, а ў 1676 г. сумесна з сябрамі па працы зрабіў для іх з серабра рукамыйнікі. Аздобленыя золатам і мудрагелістай чаканкай, яны прыйшліся даспадобы малым.

Яшчэ, мабыць, вышэйшай вартасці цуд зрабілі, па ўсяму відаць, іншыя разбяры ў горадзе Смаленску. Іканастас мясцовага храма прыцягвае ўвагу кожнага, хто толькі пераступіць парог Божага дома. Зіхоткае залатое ззянне зыходзіць ад пакручастых пялёсткаў, што ўпрыгожваюць царскія вароты іканастаса. Здавалася, яны адчыняюць уваход у нешта невядомае, чароўнае, таямнічае. Твор сусветнага значэння ашаламіў сваё прыгажосцю нават фашыстаў, што іншым разам у асляпленні нянавісці да духоўнай культуры рускіх, беларусаў, наогул славян, знішчалі і больш значныя праявы народнага генія. Бліжэйшы паплечнік Гітлера Гімлер на адным з пасяджэнняў кіраўнікоў СС паставіў

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




## Выйшлі са строю рухавікі

*"Іл–62", які выконваў рэйс Масква — Уладзівасток, пры заходзе на пасадку ледзь не пацярпеў катастрофу, з–за таго, што выйшлі са строю рухавікі.*

Дзякуючы майстэрству экіпажа аварыі ўдалося пазбегнуць. Пацярпеўшых няма.

## Паніка ў Руандзе

*Працягваецца эвакуацыя замежных грамадзян з Руанды, якая пачалася пасля таго, як у гэтай краіне паявілася рэальная небяспека грамадзянскай вайны.*

У сталіцы Руанды пануе поўны хаос. У любы час сутак на вуліцах можна ўбачыць п'яных людзей са зброяй. Цяжкія часы насталі і для супрацоўнікаў Чырвонага Крыжа, якія працуюць круглыя суткі. Большая частка немцаў і швейцарцаў прыбылі ўжо ў панядзелак з Руанды ў Кёльн. Бельгія таксама пачала актыўную работу па эвакуацыі сваіх грамадзян.

## Сенсацыйная знаходка

*Пры археалагічных раскопках у горадзе Сефорысе, размешчаным каля Назарэта ў Галілеі, была знойдзена шматколерная мазаіка з адлюстраваннем задыяка.*

Мазаіка знаходзілася ў старажытнай сінагозе V стагоддзя, якая захавалася да нашых дзён.

Мазаічная падлога галоўнай залы выкладзена ў выглядзе суцэльнага дывана, падзеленага на прамавугольныя пано. Задыяк займае цэнтральнае пано, якое ўключае таксама назвы месяцаў і астралагічных сімвалаў на іўрыце. Чатыры пары года адлюстраваны вакол задыяка ў суправаджэнні надпісаў на іўрыце і грэчаскай мове; восень адлюстравана ў выглядзе жанчыны.

## Мільярд за кроў і смерць

*Германія павінна выплаціць 1 мільярд марак у якасці кампенсацыі грамадзянам Расіі, Украіны і Беларусі, якія пацярпелі ад нацызму ў гады другой сусветнай вайны.*

20 працэнтаў ад агульнай сумы будзе перададзена Беларусі да мая 1995 года.

## У МАП – юбілей

*Міжнародная арганізацыя працы адзначыла ўчора сваё 75–годдзе.*

Адным з галоўных напрамкаў супрацоўніцтва з рэспублікамі былога Саюза дырэктар рэгіянальнага бюро МАП лічыць развіццё дыялогу паміж урадамі, прафсаюзамі і бізнесменамі.

## Перамір'е... у "калідорах Улады"

*У кабінеце міністраў Вялікабрытаніі — часовае перамір'е.*

Паводле заявы прадстаўнікоў правага крыла кансерватыўнай партыі, Джон Мейджар застаецца найбольш пераважальнай фігурай на пасадзе лідэра.

* * *

Лідэр ЛДПР У.Жырыноўскі прыбывае ў Страсбург у складзе расійскай дэлегацыі на парламенцкую асамблею Савета Еўропы.

* * *

У Лондане адкрываецца выстава сродкаў спадарожнікавай і кабельнай сувязі -94.

* * *

У Празе пачынаецца чарговае пасяджэнне мінскай групы СБСЕ па ўрэгуляванню армяна-азербайджанскага канфлікту.

---

**ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!**

Рубрыку вядзе Святлана КУЛІКОВА тэл. 68-29-26

## Адкуль татары на Беларусі?

*"Вядома, што Беларусь не была пад мангола-татарскім ярмом. Адкуль жа, у такім разе, з'явіліся на нашай зямлі татары?*
**В.ІКАН, Барысаўскі раён".**

Татары на нашай зямлі з'явіліся амаль 800 гадоў таму. У канцы XIV стагоддзя хан Залатой Арды Тахтамыш быў скінуты сапернікамі. Хоць са сваімі паплечнікамі знайшоў прытулак у Вялікім княстве Літоўскім. У якасці рэзідэнцыі Тахтамышу выдзелілі Ліду. Ён з часткай сваіх людзей пасяліўся ў гэтым горадзе. Іншых жа (а ўсяго з ім прыйшло 40 тысяч чалавек) рассялілі ў Гародні, Наваградку, Міры, Капылі. З цягам часу колькасць татар на Беларусі расла. Адбывалася гэта не толькі ў выніку натуральнага прыросту і за кошт чарговых беглякоў ды перасяленцаў з Залатой Арды ды Крымскага ханства, але і ў выніку войнаў. Пасля перамог над крымчакамі, якіх неаднойчы разбівалі пад час іх рабаўніцкіх набегаў, палонных рассялялі ў гарадах і мястэчках.

Беларускія татары займаліся рамёствамі (галоўным чынам звязанымі з апрацоўкай скур жывёл), конегадоўляй, агародніцтвам. (Дарэчы, месца, дзе ў наш час размешчаны мінскі Палац спорту, называлася яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя Татарскімі агародамі). Татары служылі ва ўзброеных сілах Вялікага княства Літоўскага. Так, напрыклад, шматтысячны атрад татар пад кіраўніцтвам хана Джал хэд-Дзіна ўдзельнічаў у разгроме крыжакоў у бітве пад Грунвальдам.



## "Даміна" не будзе!

*"Чуў, што ў будаўніцтве існуе тэрмін "эфект даміно", і што быццам бы ён вельмі небяспечны для сучасных гарадоў.*
**А.ВОЙЦЕК, г.Мінск."**

Так, такі тэрмін сапраўды існуе. Параўнаць яго можна, з тым, калі паставіце "на папа" костачкі даміно адну за адной. Штурхніце першую — яна ўпадзе на другую, другая - на трэцюю і г.д. А цяпер уявіце, што гарадскія шматпавярховыя дамы — гэта тыя ж костачкі даміно. У выпадку землятрусу, выбуху ці іншай надзвычайнай сітуацыі адзін дом валіцца на другі, другі на трэці і г. д. Могуць такім чынам быць знішчаны цэлыя мікрараёны. Гэта і ёсць "эфект даміно".

Але, як паведамілі ў штабе Грамадзянскай абароны рэспублікі, такі эфект у нашых гарадах выключаны. Пры будаўніцтве разлічваецца, каб вышыня аднаго дома не перавышала адлегласці да другога.

## Скажы мне, якія ў цябе джынсы, і я скажу, хто ты

*"Нядаўна ў Мінску была арганізавана выстава-продаж джынсаў "Лівайс". Шырока рэкламавалася мадэль "501" гэтай фірмы, аднак цана "кусалася" — 50 даляраў ЗША. Ці сапраўды гэтыя джынсы настолькі папулярныя ў свеце?*
**І.КАНАПАЦКІ, г.Баранавічы."**

Найбольш папулярныя ў свеце фірмы "Лівайс", "Лі", "Рэнглер" і "Лі Купер". Першай на рынку джынсаў лічыцца фірма "Лівайс". Што датычыць кошту мадэлі "501", то ў Ізраілі яна каштуе 60 даляраў, у Еўропе — 80, а ў Японіі — 180 даляраў.

## Царква забараняе і тым часам дазваляе

*"Зараз стаў вельмі модным абрад вянчання. Але далёка не ўсе сем'і захоўваюцца і пасля яго. Гавораць, што Царква скасавання шлюбу не дае. Ці так гэта?*
**А.БРОЎКІН, Мінскі раён".**

У Мінскім Епархіяльным упраўленні растлумачылі, што на самай справе Царква скасавання шлюбу не дае. Але, нягледзячы на гэта, некаторыя праваслаўныя хрысціяне хочуць вянчацца ў храме, чым дабраславіць адзін з самых важкіх момантаў у сваім жыцці — узяцце шлюбу.

На жаль, здараецца, што не ўдаецца зберагчы дар духоўнага таінства, атрыманы пры вянчанні. Калі шлюб разваліўся і нельга нічога вярнуць, Царква ўспрымае гэта як трагедыю. Але ўсё ж яна ідзе насустрач чалавечым слабасцям, прызнае факт распаду сям'і і дае магчымасць усё пачаць спачатку. З гэтай прычыны Праваслаўная Царква дазваляе другі, а ў выключных выпадках і трэці шлюб.



---

**ТУСОЎКА**

# Хіпары ды панкі – бледныя паганкі

□ Томаш ШАРОТА

*Калі вы думаеце, што гэта лозунг зусім нядаўні, дык памыляецеся. Прафесар інстытута гісторыі Польскай акадэміі навук Томаш ШАРОТА дапаможа нам зірнуць на еўрапейскіх хіпароў ды панкаў 40–х гадоў. Ягоны артыкул з варшаўскага часопіса "Mowia wieki" мы друкуем з нязначнымі скарачэннямі.*

Доўгі пінжак, вузкія штаны, стракаты гальштук, абутак на тоўстай падэшве, цёмныя акуляры, ззаду доўгія валасы... Яны захапляліся амерыканскім стылем жыцця і ангельскай мовай, яны слухалі джаз. Яны былі праціўнікамі сістэмы і пунктам атак афіцыйнай прапаганды.

Гэта — не ўспамін з часоў нядаўняй, 60-х гадоў айчыннай гісторыі. Маладзёжная субкультура, аб якой ідзе размова, утварылася ў Францыі на пачатку 40-х гадоў, у час нямецкай акупацыі. Яны называлі сябе "зазу".

Без сумнення, існуе шчыльная сувязь паміж пашырэннем у акупіраванай немцамі Францыі моды на джаз і свінг і нараджэннем моды "зазу", а потым і своеасаблівага стылю жыцця, акрэсленага гэтай назвай. Перад вайной вядомы спявак і трубач Фрэды Тэйлар пачаў прапагандаваць у Францыі стыль адзення амерыканскіх джазменаў. Але папулярнасць джаза і ўсяго звязанага з ім раптоўна ўзрасла менавіта ў першыя месяцы акупацыі. Узімку 1940\41 парыжскі "Hot Club de France" налічваў 5000 сяброў, тады як перад вайной іх колькасць складала 350. 19 снежня 1940 г. у зале Гаво сакратар клуба Шарль Дэлона арганізаваў першы джазавы фестываль. Хутка стварылася група маладых энтузіястаў джаза і звязанай з ім моды, сярод якіх былі спявак швейцарскага паходжання Джоні Хрэс, вядомы песняй "Я — свінг" ды гітарыст-цыган Джанго Рэйнгард, квінтэт якога з вялікім поспехам выступіў у парыжскай зале Плейе ўжо ў студзені 1941. Для ўсіх іх знакам адзінства быў ужо згаданы стыль адзення.

У нейкі момант словы "свінг" і "зазу" сталі сінонімамі. Яны азначалі жыццёвую пазіцыю, стыль паводзінаў і нават паходку. Але захапленне джазам і свінгам не было простай цікавасцю да пэўнага музычнага стылю. Істотную ролю тут адыгрывала стаўленне да Злучаных Штатаў і амерыканскай культуры. У пэўным сэнсе папулярнасць джаза і свінга трактавалася як своеасаблівая апазіцыя пануючым ідэалогіі і палітыцы калабарацыяніцкага ўрада Вішы. Трэба памятаць, як інтэрпрэтаваўся джаз у афіцыйнай нямецкай прапагандзе ды калабарацыяніцкім друку і радыёпраграмах. Падпарадкаваныя калабарацыяністам мас-медыя называлі джаз "канвульсіўнай мітуснёй неграў Новага Арлеана і жыдоўскіх аферыстаў з Брадвея". "Радыё-Парыж", праўда, перадавала джаз, не забываючы нагадваць, што гэта — творчасць "жыда-негра-амерыканцаў". З уступленнем Злучаных Штатаў у вайну папулярнасць джаза і свінг ў акупіраваным Парыжы дасягнула апагея. Нямецкая цэнзура здымала з канцэртных праграм творы амерыканскіх кампазітараў, а французскія музыкі ашуквалі цэнзараў, змяшчаючы ў праграме "La tristesse de Saint-Louis" замест "Saint Louis Blues".

У сваёй кнізе "Нямецкі Парыж", выдадзенай у 1981 годзе, французскі гісторык Анры Мішэль пісаў пра зазу: "Ніхто іх не любіць, усе, наадварот, ганьбяць за адсутнасць стрыманасці, за іх фанфаронства, за нежаданне падзяляць агульную бяду, за эгацэнтрызм. Яны не прадстаўляюць усяе парыжскае моладзі, тым больш — моладзі рабочай. Гэта — частка так званай "залатой моладзі". Праўду кажучы, яны цалкам непатрэбныя, яны — паразіты. У руху зазу палітыка адсутнічае, для іх яна не існуе". Але ж, згаджаючыся з вызначэннем прыналежнасці людзей гэтага асяроддзя да заможных сем'яў, цяжка прызнаць слушным меркаванне аб апалітычнасці зазу. Іх палітычныя сімпатыі былі ясна акрэсленымі і адназначнымі.

З таго, што пісалі аб зазу калабарацыяніцкія выданні, ясна вынікае: ім была чужая ідэалогія як фашызму, так і пануючага на тэрыторыі акупіраванай Францыі дзяржаўнага нацыяналізму. Іх хутчэй можна было аднесці да касмапалітаў. Без ценю сумнення, зазу не належалі да прыхільнікаў Петэна, наадварот, большасць сімпатызавала дэ Голю. Зазу, якія перад усім ставілі свабоду меркаванняў і ўчынкаў, не пасавалі да прапагандаванага Трэцім Рэйхам "новага ладу". Свае надзеі яны звязвалі з перамогай у вайне Англіі ды Амерыкі, а з пачаткам нямецка-савецкай вайны зычылі поспеху Чырвонай Арміі.

Варта працытаваць некалькі артыкулаў, прысвечаных зазу, якія з'явіліся ў кантраляваным немцамі парыжскім друку. Адзін з іх пад назвай "Хто такія зазу?" апублікаваў тыднёвік "змагання з жыда-масонствам" — "О пілёры". Зазу там былі названыя "эпідэміяй пэўных паразітуючых насякомых". Журналіст цытаваў размову з адным з зазу, які на пытанне, чаму ён падтрымлівае дэ Голя, адказаў: "Я патрыёт!" З тэксту артыкула можна даведацца, што зазу бралі актыўны ўдзел у маляванні знакаў "U", і журналіст, жадаючы іх скампраметаваць, пісаў, што гэтыя знакі змяшчаліся адно на сценах прыбіральняў.

Варта звярнуць увагу на факт, што ўзмацненне атак на зазу ў легальным парыжскім друку супадае ў часе з рэалізацыяй у акупаванай Францыі праграмы "канчатковага вырашэння жыдоўскага пытання". Цытаваны вышэй артыкул з'явіўся ў антысеміцкім выданні за чатыры дні да ўвядзення загада аб нашэнні яўрэямі знака "зоркі Давіда". І невыпадкова сярод асоб, што дэманстравалі сваю салідарнасць з праследаванымі яўрэямі, знайшліся і зазу. "Свінг" — напісаў адзін з іх на сваім "знаку ганьбы".

25 мая 1942 г. у Парыжы была створана арганізацыя маладых французскіх фашыстаў — "Французская нацыянальная моладзь". 14 чэрвеня 1942 г. удзельнікі гэтай арганізацыі ажыццявілі першую акцыю, якая мела абвясціць іх прысутнасць у публічным жыцці. У гэты дзень у некалькіх парыжскіх кварталах — Нейі, у Лацінскім квартале ды на Элісейскіх палях — маладыя фашысты правялі паляванне на зазу, схопленым адразалі доўгія валасы. Калабарацыяністам нейставала магчымасці здзекавацца з іншадумцаў у друку — яны перайшлі да чыну. 18 чэрвеня 1942 г. "О Пілёры" змясціла артыкул "Свінг жыда-галістаў", у якім зазу ставілі ў адзін шэраг з яўрэямі і прадстаўнікамі руху супраціўлення. 17 ліпеня 1941 г., на другі дзень вялікай аблавы на яўрэяў, газета "Пары суар" патрабавала "пакласці крэс маскарадам свінга і зазу", якія адбываюцца ў той час, калі французскія добраахвотнікі змагаюцца на ўсходнім фронце.

З лютага 1943 г.,з увядзеннем у акупіраванай Францыі рэжыму "абавязковай працы" зазу сталі значна менш бачнымі на парыжскіх вуліцах, — адчуўшы пагрозу высылкі на работу ў Нямеччыну, яны пачалі хавацца. Тады яны належалі да шуканых паліцыяй "рэфрэктэр" — ухіленцаў ад працы на Трэці Рэйх. 13 мая 1943 г. артыкул "О Пілёры" патрактаваў усіх зазу, як здраднікаў Радзімы. А яшчэ за некалькі дзён да вызвалення Парыжа, 17 жніўня 1944 г., газета "Ле Кры дзю Попль" ("Голас народа") прапанавала: "Ровары жыдоў, зазу і спекулянтаў павінны быць перададзены ў распараджэнне работнікаў".

Французскія даследчыкі, пішучы аб зазу, як аб з'яве выключна парыжскай, не маюць рацыі. Плынь моладзі, якая акрэслівалася той жа назвай, існавала і ў акупаванай немцамі Бельгіі. 12 лістапада 1942 у "Ле Суар" быў змешчаны артыкул Рауля Рускарта "Дэзерціры сацыяльнай рэчаіснасці — зазу". Для аўтара гэтага твора бельгійскія зазу былі дзецьмі з сем'яў дэкадэнцкай буржуазіі. Любімы імі джаз называўся музыкай "негрыцянскай ці негрыцянскага ўзору", а самі зазу — нідзе не працуючымі бейбусамі-дармаедамі. Цікава, што падпольнае выданне "Л інсурмі" ў лістападзе 1943 г. сярод тых, з якімі па вайне трэба будзе палічыцца — даносчыкаў, багацеючых на бядзе народа, сялян і купцоў, змясціла і зазу — людзей па-за колам патрыятычнага адзінства. У той жа час выдаваная немцамі "Бруселар Цайтунг" абвясціла прыналежнасць да зазу праявай англафіліі, а значыць з'явай антынямецкай.

Што засталося ад зазу? Некалькі з'едлівых артыкулаў ды карыкатур ва ўрадавым друку? Што пакінулі па сабе іншыя маладзёжныя субкультуры — чэшскія "потапка", польскія "бікіняжэ", амерыканскія "гіпіс", стылягі савецкага ўзору ды іншыя? Тыя з маладых, якія ядналі гэтыя супольнасці, не былі ані прадстаўнікамі свайго пакалення, ані ўзорнымі грамадзянамі. І кожны са згаданых маладзёжных рухаў быў у першую чаргу рухам пасіўнага супраціўлення пануючым у грамадстве нормам і густам, пануючай у дзяржаве афіцыйнай культуры ды ідэалогіі.

У Кракаве, пісала брусельская "Ле Суар" 25 мая 1944 г., роўна як і ў Бруселі, Празе, Парыжы, можна сустрэць маладзёнаў, якія апранаюць доўгія пінжакі і маюць даўгія, спадаючыя на шыю валасы. Гэтую моладзь яднала захапленне джазам.



---

*з гісторыі Беларусі*

# ПА СВЕЦЕ...

задачу аб знішчэнні трыццаці мільёнаў славян, у тым ліку, вядома, беларусаў, рускіх, бо "для нас, немцаў, важна аслабіць рускі народ у такой ступені, каб ён не быў больш у стане перашкодзіць нам усталяваць нямецкае панаванне ў Еўропе".

Пры такім падыходзе грабежніцтва ўводзілася ў ранг дзяржаўнай палітыкі і ўседазволенасці. Па загаду генерала Гудэрыяна іканастас разабралі і адправілі ў Рэйх. Толькі перамога над фашызмам дапамагла захаваць выдатнае тварэнне беларускіх разбяроў і вярнуць яго законным гаспадарам.

У Маскве рабіў гравёрам Тамаш Макоўскі. Талент яго праявіўся ў роднай Беларусі, калі працаваў пры двары князёў Радзівілаў, кіруючы друкарскай і гравёрнай справамі. У 1613 г. таленавіты майстар зрабіў гравюру карты Вялікага княства Літоўскага, відарысы Вільні, Клецка, Нясвіжа. Гравюры з відамі Масквы сведчаць пра дапытлівы позірк нашага земляка, уменне засяродзіцца на значных матывах навакольнага асяроддзя, адлюстраваць іх абагульняючымі сродкамі.

З Копыся, што на Аршаншчыне, перасяліўся на Маскоўшчыну выдатны майстар па кафлі Ігнацій Максімаў. Яго ўмельства кінулася ў вочы патрыярху Нікану і той, імкнучыся паставіць уладу царквы вышэй за ўладу цара Аляксея Міхайлавіча, узяў кемнага кафляра ў Валдайскі Іверскі манастыр, дзе той наладзіў выраб паліхромнай расфарбаванай кафлі. Ёсць меркаванні, што тут, у Маскве, ён сустрэў земляка з Мсціслава Сцяпана Іванова па мянушцы Палубес, таксама кафляра, таксама адметнага майстра. Убачыўшы маёлікавыя рэльефы, якія Сцяпан вырабляў у майстэрні князя Трубяцкога, а пасля і ў Васкрасенскім саборы ў Нова-Іерусалімскім манастыры, што на рацэ Істра, Ігнацій не стрымаўся ад захаплення:

— Не, ты не палубес, ты — сапраўдны бес! Гэтак навастрыўся кафлю рабіць!

З 1658 г. землякі-беларусы працуюць разам. У Аружэйнай палаце Крамля захоўваецца шмат розных відаў узбраенняў, сярод іх ёсць і ўзоры, вырабленыя і аздобленыя рукамі майстроў-беларусаў.

Удваіх майстры працавалі на аздабленні царквы Грыгорыя Неакесарыйскага, упрыгожваючы яе кафлянымі фрызамі, іх талент мы бачым у Пакроўскім саборы, што ў Ізмайлаве, яны выкарысталі маёліку пры стварэнні рэльефаў хрыстовых апосталаў для храма Успення ў Ганчарах.

Вядома ж, на ўзвядзенні цэркваў, палацаў ды і простых сялянскіх хат, рамесніцкіх майстэрняў, мастоў у вырашэнні іншых вялікіх і малых спраў добра спраўляўся і сам люд княства, царства Маскоўскага і Расійскага. Гледзячы на дайшоўшыя да нас з XVIIст. гадзіннікі, падсвечнікі, сталы і крэслы, кароны і троны, іконы і аправы абразоў, кнігі і посуд, адзенне, тканіну і абутак, — дзівішся іх самабытнаму таленту.

Адзначым, што, скінуўшы шматвяковае рабства азіяцкіх заваёўнікаў, Расія, нібыта ўваскрэслая птушка Фенікс, разгортвала свае магутныя сілы, імкнулася дагнаць еўрапейскія дзяржавы ў будаўніцтве, архітэктуры, мастацтве. Каб здзейсніць свае велічныя справы, цары і вяльможы мелі патрэбу ва ўмелых руках майстроў, мастакоў, дойлідаў. Відавочна, невыпадкова "Первое и самое достопаметное летописное слово о Москве гласит: "Приди ко мне, брате, в Москву!"..., "Буди, брате, ко мне на Москву!".

І ішлі на Маскву людзі амаль з усяго свету, будуючы пампезныя палацы, ствараючы жывапісныя палотны, вырабляючы посуд і кубкі залатыя для хмельных напояў, пярсцёнкі і панікадзілы...

Не абыходзілася тут без беларускіх залаташвачак, што стваралі цудоўныя слуцкія паясы, разбяроў з Віцебшчыны, кафляроў з Магілёўшчыны. Шмат працавалі яны на славу Расіі. Нярэдка вяльможы аддавалі перавагу ў сваіх заказах сваім дамарослым майстрам. У 1656 г. патрыярх Нікан купіў сабе карэту нямецкай работы. Грошы па тым часе заплаціў немалыя — пяцьдзесят рублёў. Нічога не скажаш, карэта шыкоўная! Абабіта чорнай скурай, цвікамі залачонымі. Толькі не спадабалася патрыярху нечым адмысловае заморскае тварэнне. Вядомы рускі гісторык і пісьменнік Іван Забелін піша ў "Истории города Москвы": "Однако в том же году ему уже делали новую резную карету, патриаршие каретные мастера, Поляки (Белоруссы)".

Кажуць і па сёння стаіць тая карэта. Перажыла і сваіх майстроў, і свайго гаспадара. Значыць, добра, надзейна, на доўгае карыстанне была зроблена...

Слава пра беларускіх умельцаў ляцела па ўсім свеце. У 1929 г. арцельшчыкі з вёскі Грабаўка, што на Гомельшчыне, на чале з Арцёмам Башлыковым падаліся ў Белакаменную. Прыехалі, агледзеліся, работа іх сама знайшла, столькі было задум у новай Савецкай улады. Рукі проста нарасхват. Даручылі беларусам работу, якой раней ніколі займацца не даводзілася, — мураваны Маўзалей Леніну збудаваць. Грошы паабяцалі не надта вялікія, а адказнасць вунь якая! Самому ж Леніну!..

Працавалі спорна, справу ж сваю добра ведалі. За дзень сцяну паставілі. Крамлёўскае начальства, што для нагляду было прыстаўлена, падзівілася такім тэмпам. Але ж калі даведаліся, што будаўнікі, насуперак зацверджанай тэхналогіі прыгатавання раствору, па-свойму ўсё зрабілі, раз'юшыліся страшна. Ну ледзьве каля гэтай сцяны не паклалі ўсіх. Выратавала, відаць, умельства майстроў, абяцанне не супраціўнічаць... Стрымалі слова майстры-беларусы. Стаіць Маўзалей!..

Ну, а як жа сённяшнія майстры? Адкажу, што не горшыя. Адпаведныя часу, новым дасягненням навукі і практыкі. Збудавалі ж у Фаросе, для цяпер ужо былога, генсека і сумнай памяці прэзідэнта, некалі слаўнага Саюза, "фазэнду", якая зберагла таго ад міфічных змоўшчыкаў.

...Будаўніцтва пачалося з рэканструявання вайсковых аэрадромаў, якое было завершана ўжо праз тры месяцы. Каштавала гэта дзяржаве звыш шасці мільёнаў! Прэзідэнцкі самалёт цяпер мог у любую хвіліну прызямліцца і ўзляцець з Фароса. Адразу ж разгарнулася праца і над "фазэндай". Яе пабудавалі за няпоўныя два гады. Працавалі на звышсакрэтным аб'екце штосутачна ў сярэднім чатыры тысячы рабочых-будаўнікоў, інжынераў. Абышлася будыніна ў пяцьдзесят мільёнаў! Чаго толькі не было на той "фазэндзе". Аб палацы можна скласці ўяўленне па лазні, ці саўне па-замежнаму, для якой пабудавалі спецыяльны трохпавярховы дом. Асобна, для аховы, яшчэ адна будыніна на 200 месцаў. Казачнае відовішча ўяўляе сабой ванна. Ні многа ні мала — дваццаць квадратных метраў, аздобленая германскай кафляй.

Цудам, валютна аплачаным, быў эскалатар, што дастаўляў вяльможных пасажыраў пад усплёск самой марской хвалі.

"Чужаку" трапіць на засакрэчаны аб'ект было немагчыма. Кожны крок незнаёмага кантраляваўся праз 400 тэлекамер. Кажуць, аб усіх дзівосах "фазэнды" ў Фаросе нельга ні расказаць, ні пяром апісаць... І можна б было, відаць, усумніцца ў расказваннi "генеральнага" выхадца з народа, былога стаўрапольскага камбайнера, каб не наш зямляк, таленавіты ўмелец, просты цясляр Анатоль Лысенкаў, якому "пашчасціла" займацца аздабленнем тае шыкоўнае "фазэнды". Цясляр ён знакаміты, на "шабашку" трапіў у час вайсковай службы. Да гэтага ў Маскве будынак Генштаба ўзводзіў, на Байкануры папрацаваў. Тэрмін будаўніцтва гарбачоўскай дачы ўстанавілі вельмі сціслы — чакалі амерыканскага прэзідэнта, карцела ўразіць, хоць тут "дагнаць і перагнаць". Будаўнікі, а таксама Анатоль Лысенкаў, стараліся. Непрамакальны дах паклалі, пакоі зрабілі ўтульныя, вокны мазаікай аздобілі. Зойдзеш у палац — усё вясёлкай пераліваецца, зіхаціць аж! Дах — не абы-які — з завазной замежнай чарапіцы...

Пабудавалі тую дачу. Праўда, не давялося ні ў той ванне паплёскацца, ні ў тую саўну схадзіць, ні ў мора на эскалатары праехацца. Паспрабавалі адно — сфатаграфаваць на памяць справу рук сваіх — нічога не атрымалася. Нейкі сакрэт тая гарбачоўская дача мае — плёнка кожны раз засвечваецца.

Справа, вядома, не ў хітрасцях шыкоўнай будыніны. Мы яшчэ раз убачылі ўмельства земляка нашага, увасобленыя ў ягоным цяслярскім, будаўнічым майстэрстве кемнасць і здатнасць продкаў, няспынны, таямнічы, як жыццё, рэй пераемнасці матэрыяльных, духоўных набыткаў нацыі, што ніколі не перарываўся і не спыніцца да веку. Прыгажосць жа — частка душы народа!

■ Мікола КУЗНЯЦОЎ.

